# THE ULTIMATES™

ISSUE 7

MILLAR
HITCH
CURRIE

MARVEL®




The Ultimate
№7 (2002)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей



WWW.MARVEL.COM




# PREVIOUSLY IN THE ULTIMATES:

Каманда "Алцімэйтс" паспяхова выканала сваё першае заданне.

У падзеі "Інцыдэнт Халка" каманда была вымушана змагацца супраць свайго ж чалавека. Пад час аперацыі быў зруйнаваны Манхэтан і забіта шмат нявінных людзей сярод грамадзянскіх. Аднак перамога ўзмацніла іх статус сусветнай сістэмы абароны ўладаў і іх вядомасць узрасла ў вачах грамадства. Але ўсё зусім не так, як здаецца.

Доктар Брус Банэр, геній, які ператварыў сябе ў Халка, у дадзены час знаходзіцца ў зняволенні. Яго стан у камандзе, так сама як і здароўе - псіхічнае і фізічнае - пакуль пад вялікім пытаннем.

Спрэчка між Волатам і Асой, вядомымі так сама як доктар Генры Пім і місіс Джанэт Пім, заканчваецца вельмі нечакана для абодвух. Пасля памяншэння да памераў асы, Джанэт была атакавана мурашкамі, якіх кантраляваў яе муж.



Stan Lee presents:

# THE ULTIMATES

Mark Millar story
pencils Bryan Hitch Andrew Currie inks

Paul Mounts colors
Chris Eliopoulos letters
C.B. Cebulski associate editor
Brian Smith associate editor
Ralph Macchio editor

editor in chief Joe Quesada
Bill Jemas president & inspiration









«Аспрэч тое, што жыццё ўсяго толькі пустая мара з **чарадой крыўд** і **скарг**. Паколькі душа памёрла, яна **спіць**, і ўсё не так як **здаецца**».


REST IN PEACE
REST IN PEACE
Жыццё рэальнае, жыццё сур'ёзнае і сур'ёзнасць яе не ў на-перах. І тое, што ты збіраешся вярнуцца, не кажа пра тваю душу.


«Не задавальненне і не беды наша прызначэнне канца ці шляха жыцця. А дзеянне, і заўтра мы будзем далей, чым сёння».


Імкнучыся да дасканаласці, час ляціць, і нашыя сэрцы хоць і моцныя і дужыя, але б'юць яны як заглу-шаныя барабаны...


«...жалобнага марша да магілы».


У маштабным змаганні, у штодзённай руціне не падобныя на глупых і пакорлівых стварэнняў...


«...А на герояў у іх барацьбе».


Не верацЬ у будучыню, нават у шчаслівае. Дазволь мёртваму мінуламу пахаваць загінулых. Жыць у цяперашнім...


«...біцца сэрцу і верыць у бога».

ТРЫКСЕЛІЁН:
НЮ-ЁРКСКІ ШТАБ ЗВЫШЧАЛАВЕЧАЙ
ІНІЦЫЯТЫВЫ АБАРОНЫ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ







Эман Брэнкін, сэр. Я ня ведаю, ці памятаеце вы мяне, але я быў старэйшым медыцынскім працоўнікам у «Абароне» ў працы над праектам старога гена некалькі гадоў назад.
Доктар Пім папрасіў мяне замяніць яго ў праграме Суперсалдат, калі ў вас, ох...

Эмм, калі ў вас здарыўся апошні эпізод Халка, сэр.

Я павінен праглядзець вашыя аналізы крыві і вырашыць, што мы зможам зрабіць далей для вашага больш зручнага знаходжання тут, доктар Банэр.
Вы напэўна ўсё яшчэ слабыя з-за болесуцішальных уколаў, каб размаўляць прама зараз?

Тут была адна медсястра, яна сказала, што сёння раніцай праводзяць урачыстую службу па ўсім, каго я забіў у Нью-Ёрку, доктар Брэнкін.
Казала, што ёй забаронена ўзгадваць усе дэталі, бо стрэс можа пагоржыць мой стан. Але яны хацелі, каб я таксама пакутаваў, бо адна з іх медыцынскай брыгады страціла тады пляменніцу.

Дык што, няўжо я забіў больш трохсот чалавек?


Калі шчыра, мы пакуль ня ведаем дакладную лічбу ахвяр - яшчэ не ўсе целы адшукалі з-пад завалаў, сэр.
Аднак адлік загінулых ідзе на сотні. Але, спадзяюся, вам будзе прыемна ведаць, што ўвага прэсы ў асноўным засяроджана на выратаваных намі людзях, а не на загінулых.

Доктар Брэнкін, вы нават не ўяўляеце, як мне цяжка. Газеты павінны былі разнесці мяне, а народ - патрабаваць маю галаву...

Тут не абышлося без піяр-кампаніі.
Мы не маглі давесці да таго, каб вядучы навуковец новай праграмы нацыянальнай абароны стаў мішэнню для прэсы пасля нашага ж першага сур'ёзнага задання.
Што вы маеце на ўвазе?

Мы цалкам знішчылі любыя ўзгадненні пра вас, доктар Банэр. Амерыканцы нават ня ведаюць аб тым, што між Брусам Банэрам і Халкам існуе нейкая сувязь.
Вы сур'ёзна? Хочаце сказаць, што калі я выйду адсюль, мяне ня будуць судзіць?

Гэта адна з тэмаў, якую я б хацеў з вамі абмеркаваць.
Даследванне вашых аналізаў крыві паказала некаторыя заканамернасці. Баюся, стан вельмі няпросты. І дзве вашыя апошнія выхадкі з Халкам - гэта дробязь.


Так, вы злучылі вашу старую формулу з формулай **сыроваткі суперсалдата Капітана Амерыка**. Аднак **анціцелы Халка**, якія знаходзяцца ў вашай крыві, **не зніклі**.
Што вы хочаце гэтым сказаць?


Мы лічым, што яны далучыліся да **вашай ДНК**, сэр.


Вы звар'яцелі? Гэта проста **смешна**! Я не збіраюся сядзець да канца дзён у гэтай **клетцы**!
Я патрабую, каб дадзеныя яшчэ раз пераправерылі! І зрабіць гэта павінен **Хэнк Пім**, а не нейкі ідыёт, пра якога я сёння першы раз пачуў!


А гэта - другая тэма, якую я хацеў бы з вамі абмеркаваць, доктар Банэр...
...ведаеце... доктар Пім **знік**.


Генерал Ф'юры, мы толькі што атрымалі дадзеныя сацыяльных апытанняў пасля службы... Проста неверагодна... **гіганцкі ўзровень падтрымкі**!


Я ж казала, мы не памылімся, калі даручым Капітану Амерыка прачытаць панегірык. Наша цэлевая аўдыторыя **любіць** такія сентыментальныя выступы з удзелам **старых салдатаў**.


Беці, што з табой? Ты хоць на хвіліну можаш забыць **пра пра**цу?


Хочаш сказаць, што **ты** толькі што стаяў і маліўся за тых мілых, маленькіх дзетак, салдат?


Хэй, Кэп! Як справы, стары?
**Бакі**? Што **ты** тут робіш? Гейл? Як жа я рады вас бачыць! Ня ведаў, што сярод загінулых ад **нападзення Халка** былі вашыя знаёмыя.


Не было. Але ўсё роўна гэта ў нейкай ступені доўг кожнага з нас. Ушанаваць памяць.
Віншую, Сціў. Ты ўсіх уратаваў. Сыны Шэран кожны дзень перагледжваюць запіс рэпартажа пра Халка, калі мы прывозім іх дадому пасля школы.

Выдатна, што яны бачаць сапраўды годнага чалавека. А не гэтага Чалавека-павука ці жудасных Людзей-Ікс!
Так, калі я глядзеў, як ты ўрэзаўся ў яго на танку, я быццам вярнуўся ў маладосць. Памятаеш Нармандыю? Мне тады было ўсяго дзевятнаццаць...

Мне добра плоцяць за гэта, Бакі, таму імкнуся адпавядаць.

А калі мы зноў убачымся? Ці ты занадта заняты сустрэчамі са знакамітасцямі, і табе няма справы да твайго старога прыяцеля?
Смяешся? Я вечарамі сяжу адзін у сябе ў кватэры. Спрабаваў знайсці кагосьці са старых сяброў, але яны ўсе памерлі яшчэ гадоў дваццаць назад.

Чаму ж тады не прыходзіш у «Логава» па пятніцах? Памятаеш Доні Хадсана? Яму ў гэтыя выхадныя спаўняецца семдзесят пяць. Усе старыкі хочуць яго павіншаваць.
Ах, Сціў, не звяртай увагу на гэтую старыкоўскую балбатню. Раскажы лепш, як ты ўладкаваўся? Мы турбуемся за цябе.


Шчыра кажучы, было **нялёгка**. У мяне такое пачуццё, што 1945-ты быў усяго пару месяцаў назад. Разумеш, аб чым я?


Але мне тут **падабаецца**. Абжываюся патроху.
Мабыць, уся справа ў **падвышанай прыстасоўвальнасці**, якую я атрымаў дзякуючы сыроватклі доктара Эрскіна. Ці я проста прывык да **дзіўнага смака мясцовай вады**... але я сапраўды пачынаю адчуваць сябе тут як дома.


А ты выдатна выглядаеш, Сціў.


Ты таксама, Гейл. **Таксама**.


Прабачце, містар і місіс Барнс, але мне трэба неадкладна пагутарыць з Капітанам Амерыка...


МЕДЫТЫНСКІ ЦЭНТР БЭТ ІЗРАЭЛЬ:


О божа, што з ёю **здарылася**?
Місіс Пім знаходзіцца ў стане **анафілактычнага шоку**, міс Рос.
Мы далі ёй снатворнае, як толькі прывезлі яе сюды, але кожныя пятнаццаць хвілін у яе астматычны прыступ, і ціск па-ранейшаму вельмі нізкі.


А адкуль гэтыя ўкусы на целе?
Цяжка сказаць напэўна, пакул не будзе дадзеных таксілагічнага аналізу, але адзін з прафесараў **кажа**, што яны падобны... на **ўкусы мурашак**, генерал.


Але ж мурашкі **маленькія**.
Толькі не тады, калі ты сама памерам з **асу**. Мяркую, гэта здарылася пасля таго, як наша дарагая Джэнэт **зменьшылася** ў памерах, доктар?


Наколькі я разумею, **так**... Нападзенне адбылося, калі місіс Пім стала маленькай і хавалася пад масніцай ад свайго мужа.
На шчасце, у яе хапіла сілаў вырасці да нармальнага памеру да таго моманту, як прыехала «хуткая». Інач яе маглі проста **не знайсці**.


А вы ўпэўненыя, што ў гэтым вінаваты Хэнк Пім? У вас ёсць **доказы**?
Суседзі кажуць, што спачатку яны **сварыліся** наконт сваіх супергеройскіх спраў, а закончылася ўсё **бойкай**.


Жанчына, якая жыве насупраць, сказала, што бачыла, як раніцай містар Пім выйшаў з дома. На ім была кепка, а на плячы - спартыўная торба.


Жах нейкі! Мы стварылі **Волата**, каб ён стаў сапраўдным салдатам. Ён не павінен быў апушчацца да **такога**...
І што мы будзем рабіць?


Адвязем Джэн на базу, **падалей** ад гэтых **сцярвятнікаў**.

КАФЭ «ЭМПАЕР»:


Паверыць не магу! Яшчэ пару тыдняў назад мы з Пімам пайшлі выпіць у Соха, і ён толькі і казаў аб тым, які ён **шчаслівы**.
Нават калі я пазнаёміў яго з дурнаватай, але вельмі сэксі-мадэллю, Хэнк стаміў яе апавяданнямі аб тым, на якой **цудоўнай дзяўчыне** ён ажаніўся.


Ён і ў каледжы быў **такім**, Тоні.
Усе гэтыя **ўздыхі, кветкі і любоўныя цыдулкі** пад час лекцый. А потым аднойчы ў кафэ вайшла Джэн, і мы яе не пазналі - так яна ззяла.


Ён збіваў яе **раней**?
Божа. Я **абяцала**, што нікому не скажу аб гэтым...



**Так**, такое ўжо было.
Мы тады жылі ў адным пакоі. Аднойчы ён **напіўся** пасля таго, як ня здаў кантрольную па фізіцы, і **стукнуў яе галавой** аб дзверы ў ванную.




А праз год, я тады ўжо перайшла на іншы факультэт, я чула, быццам Хэнк раззлаваўся з-за таго, што Джэн танчыла з нейкім першакурснікам на каляднай вечарыне. Ён тады ўдарыў яе так моцна, што разбіў ёй губу.
Божа мой...






Чаму яна гэта **цярпела**?
Ня ведаю. А чаму іншыя церпяць?
Аднойчы яна сказала, што дзеля ўсяго **добрага**, што было, яна гатова зносіць усё дрэннае. Джэн часам вельмі **дзіўна** сябе паводзіла.




Часамі мне здавалася, што яна жудасна **незадаволена** сабой.




Прабачце, вы ж - Жалезны чалавек? Калі ласка, **падпішыце** гэтую сурвэтку для майго сына!
Прабач, даражэнькая. Наступны раз - я б з задавальненнем, але зараз мне **зусім не да гэтага**.


Бэці, у мяне проста няма слоў. Нават ня ведаю, **што** сказаць.


Чаму ты раней не расказвала аб гэтым? Хаця б з меркаванняў **бяспекі**. Ты павінна была разумець, якой рызыке мы ўсе падвяргаліся...
Шчыра кажучы, я спрабавала аб усім гэтым **забыць**, Тоні.


І спадзявалася, што ўсё яшчэ **наладзіцца**. Бо я іх сябар. А, магчыма, я лічыла, што гэта нікога больш не **тычыцца**...




Джэкі, пацвярдзілася інфармацыя аб тым, што быў выданы **ордэр на арышт доктара Хэнка Піма** за гвалт на яго жаной?


**Зараз** гэта тычыцца ўжо ўсіх нас.







Ня ўпэўнена, што мае навіны спадабаюцца вам, генерал. Гэта тычыцца **528-мі «спячых» агентаў**. Яны знаходзяцца па двух розных адрасах.

Мы з **Сакаліным вокам** пачынаем аперацыю ў пятнаццаць нуль-нуль. **Мутанты** будуць на падхопе і ў разе чаго акажуцца паблізу.







Як скажаш, Наташа. Мая справа - **прапанаваць**.


Генерал Ф'юры, гэта Джэніс з прыёмнай. Толькі што прыляцеў Тор. А прэс-агент Тоні Старка паведаміў, што яго кіраўнік трохі **спазніцца** на сустрэчу.
У дадзены момант ён на сустрэчы, у ходзе якой вырашаецца пытанне набыцця адной буйной медыякарпарацыі.
Добра, Джэніс. Скажы Тору, што ён можа ўваходзіць.


Прабач, што спазніўся, Ф'юры. Я толькі **зараз** атрымаў паведамленне ад Тоні. Усю раніцу я змагаўся з **Мідгардскім змеем Ёрмунгандам** і маім злым зводным братам **Локі**.
Нічога страшнага, Тор. Сядай і...


Пачакай, ты...


Я змагаўся з **Мідгардскім змеем**.
Сур'ёзна.


Добра. Пакінем гэта на тваё сумленне.
Джэніс, **Капітан Амерыка** так і не з'явіўся? Паспрабуй яшчэ раз злучыцца з ім.


Ён **не адказвае**, генерал.
Магчыма, выключыў мабільны. Але я на ўсялякі выпадак паспрабую знайсці яго пры дапамозе **спадарожніка**.


Дзіўна, гэты хлопец у чырвона-бела-сінім касцюме заўсёды **выконвае абяцанні**.


ЦЭНТР КІРАВАННЯ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗЗЮ:


17




Уключыць кампутар.


Пачаць пошук: **Пім Генры**. Код бяспекі: два-тры-чатыры, два-дзевяць-шэсць альфа.


КОД БЯСПЕКІ: ДВА-ТРЫ-ЧАТЫРЫ, ДВА-ДЗЕВЯЦЬ-ШЭСЦЬ АЛЬФА ПРЫНЯТЫ, КАПІТАН.
ПІМ ГЕНРЫ ЗАРАЗ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫЦЫ


Падрабязней.


КОД БЯСПЕКІ: ДВА-ТРЫ-ЧАТЫРЫ, ДВА-ДЗЕВЯЦЬ-ШЭСЦЬ АЛЬФА ПРЫНЯТЫ.
ПІМ ГЕНРЫ ЗАРАЗ У ЧЫКАГА, ІЛІНОЙС.


Падрабязней.


КОД БЯСПЕКІ: ДВА-ТРЫ-ЧАТЫРЫ, ДВА-ДЗЕВЯЦЬ-ШЭСЦЬ АЛЬФА ПРЫНЯТЫ.
КАПІТАН, ПІМ ГЕНРЫ ЗАРАЗ У КАРЧМЕ «ЧЫРВОНЫ ЛЕЎ». ПАЎНОЧНАЯ ЛІНКОЛЬН АВЕНЮ, 2446.






# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(MARVEL, 2015)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.**
Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго нlanguageздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.












# NEW 52 ЦУДА-ЖАНЧЫНА.

(DC, 2011)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**

**Azzarello, Chiang.** Богі ходзяць сярод нас. Толькі адна жанчына адважылася б абараняць чалавецтва ад гневу такіх дзіўных і магутных сілаў. Але яна адна з нас ці адна з іх? Новая эра пачынаецца для амазонскай прынцэсы Цуда-Жанчыны пад аўтарствам Брайана Азарэла і Кліфа Чанга.









# ВЯДЗЬМАР. ДОМ СА ШКЛА

(Dark Horse, 2014)




**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Tobin, Querio.** Вандруючы каля Чорнага леса Геральт сустракае самотнага паляўнічага. Аказалася, што той калісьці аўдавеў, але яго жана засталася ў свеце жывых. Уцякаючы ад лесавіка вядзьмар са сваім новым сябрам трапляюць на Дом са шкла...







ТОМ 1.

# ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ

(IDW PUBLISHING, 2011)








**Teenage mutant ninja turtles. TPB 1 (#1-4). Change is Constant**
**(c) Kevin Eastman, Tom Waltz, Dan Duncan**
**(c) IDW Publishing, 2012**
**Чарапашкі-нінзя. Том 1 (№1-4). Змены гэта сталасць**
**Пераклад на беларускую мову - Сяргей Козыраў, 2012**
**ComicsBY, Гомель, 2022**
**Другая рэдакцыя**

Чарапашкі-нінзя вяртаюцца ў коміксы ў сваёй першай прыгодзе IDW! Для Чарапашак гэта іншы свет... Група падзелена: Рафаэль блукае па вуліцах Нью-Ёрка ў пошуках ежы і сховішча, а яго браты і майстар Сплінтар займаюцца пошукамі згубленага брата, але пакуль усё, што яны могуць знайсці, гэта непрыемнасці ў выглядзе валачашчага ката-мутанта Старога Нячысціка і яго банды злачынцаў!
Далучайцеся да Тома Вальца, Дэна Данкана і аднаго са стваральнікаў TMNT Кевіна Істмана, каб пачаць дзікае падарожжа!


**Kevin Eastman**


**Tom Waltz**

# ТОМ 1.
# ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ
(IMAGE COMICS, 2003)








**The Walking dead. TPB 1 (#1-6). Days Gone Bye**
**(c) Robert Kirkman, Tony Moore**
**(c) IMAGE COMICS, 2004**
**Хадзячыя мерцвякі. Том 1 (№1-6). Дні мінулыя**
**Пераклад на беларускую мову - Алена Васількова**
**ComicsBY, Гомель, 2012**
**Другая рэдакцыя**

Рык Грэймс не быў гатовы да гэтага. Пару месяцаў назад ён быў паліцэйскім з маленькага гарадка, які ні разу не страляў і бачыў мёртвае цела толькі раз у сваім жыцці.
Разлучаны са сваёй сям'ёй, ён цяпер павінен разабрацца са смерцю і замяшаннем, каб паспрабаваць знайсці сваіх жану і сына.


**Robert Kirkman**


**Tony Moore**

# СТАНЬ ЧАСТКАЙ НАШАЙ СУПОЛЬНАСЦІ НА PATREON

www.patreon.com/comicsby

Твой удзел дапаможа нам праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў на patreon:

### Чытач

**1 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Калі ты сапраўдны **ЧЫТАЧ**. Даступны нашы рэлізы на месяц раней, чым у сацыяльных сетках і артыкулы пра коміксы і іх герояў.

- На 1 месяц раней, чым усе
- Артыкулы

### Афіцыйны патрон

**3 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Цяпер **АФІЦЫЙНЫ ПАТРОН** атрымлівае спасылку на **рэліз новых серый на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак. Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «**Цуда-жанчына**», «**Дарт Вэйдар**», «**Вядзьмар**», «**Чорны молат**», «**Дэпартамент праўды**» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці афіцыйных патронаў. Таксама афіцыйным патронам даступны «Дзённік перакладчыка» і «Планы».

- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

### Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

**ПАТРОН З ПАДПІСКАЙ ПРЭМІУМ** атрымлівае ўсё тое, што і Афіцыйныя патроны, але... Для патронаў з падпіскай прэміўм мы плануем публікацыю эксклюзіўных матэрыялаў.

- Эксклюзіўныя матэрыялы
- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

## Нашы мэты:

**100 патронаў** -
мы наймем перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
мы створым выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
наша выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.